№23-24 СТУДЗЕНЬ 2013

# Настаўнік.info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ





*Наталля Ільініч*

На лістападаўскіх канікулах група беларускіх настаўнікаў наведала Літву з адукацыйным візітам «Знаёмства з літоўскай сістэмай адукацыі». Вандроўку арганізавала грамадская арганізацыя АЦ «Пост», а непасрэдна апекавалася намі супрацоўніца адукацыйнага цэнтра Аля Дзяргай.

Найперш хачу падзякаваць усім, хто прыдумаў і рэалізаваў такі цікавы праект, асабліва спн. Алю. Хочацца падзяліцца з калегамі ўражаннямі ад візіту, бо паглядзець ў літоўскіх школах ёсць на што.

Найбольш цікавую інфармацыю ды ўражанні мы атрымалі ад сустрэчы з Ромасам Туронісам, намеснікам старшыні прафсаюза настаўнікаў

## ЯК ПРАЦУЕ ПРАФСАЮЗ ЛІТОЎСКІХ НАСТАЎНІКАЎ



*Ля Вострай Брамы*

Літвы. Ён расказаў, як жывецца літоўскім педагогам, як прафсаюз бароніць і прадстаўляе інтарэсы сваіх чальцоў.

Гэты прафсаюз работнікаў адукацыі сёння ў Літве не адзіны. У савецкія часы, канечне ж, быў адзін прафсаюз працаўнікоў асветы, у які ўваходзіла 100% настаўнікаў. Пасля адраджэння незалежнасці колькасць чальцоў моцна паменшылася – да 2 тысяч асобаў. У 2001 – 2002 гг. з-за напружанай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі прафсаюз педагогаў пашырыўся да 10 – 11 тысяч. У 2006 г. кіраўнік прафсаюза ажыццявіў непрыгожыя фінансава-гаспадарчыя махінацыі – гэта прывяло да таго, што 6 тысяч чалавек сышлі з гэтага вялікага прафсаюза і стварылі новую арганізацыю – з чыстага ліста, без усялякай маёмасці. Такім чынам, прафсаюз, які ўзначальвае сп. Туроніс, існуе з 2006 года. З таго вялікага прафсаюза таксама выйшлі працаўнікі вышэйшых школаў і стварылі свой асобны прафсаюз працаўнікоў вышэйшай школы. «*Мы канкуруем з імі і супрацоўнічаем адначасова*», – кажа спадар Туроніс.

У школьны прафсаюз уваходзяць усе работнікі школаў: прыбіральшчыцы, бухгалтары, сакратары, але большасць – настаўнікі. Галоўныя задачы прафсаюза – абарона правоў і прадстаўленне інтарэсаў яго чальцоў. Прадстаўляе інтарэсы настаўнікаў прафсаюз на трох узроўнях: у школах, у мясцовым самакіраванні і на нацыянальным узроўні. У школах прафсаюз удзельнічае ў прыняцці працоўнага дагавора, у ім прапісваюцца падрабязна ўмовы працы, павышэння кваліфікацыі, звальнення, аплаты. На ўзроўні самакіравання заключаецца трохбаковае пагадненне паміж аб'яднаннем прафсаюзаў, дырэктарамі і самакіраваннем. Шляхам перагавораў вырашаюцца пытанні закрыцця школаў, звальнення і працаўладкавання настаўнікаў – так гэтыя балючыя пытанні вырашаюцца лягчэй. На нацыянальным узроўні прафсаюз вядзе перамовы з Міністэрствам, Урадам і Парламентам. Вось, напрыклад, нядаўна абмяркоўвалі з Парламентам закон пра адукацыю, бюджэт, лабіравалі свае прапановы пра грошы для школаў.

Урад Літвы фінансуе «кошык вучня» – прафсаюз сочыць, каб інтарэсы настаўніка таксама ўлічваліся, у тым ліку і ў гэтым «кошыку». «Кошык вучня» – гэта сума, якую дзяржава выдзяляе на кожнага вучня, 3310Lt (каля 1000$) на год для звычайнага вучня, у 2 разы больш для дзіцяці з асаблівымі адукацыйнымі патрэбамі,



Экскурсія па Вільні



"Дэпартамент аптымізму"

больш таксама ў польскіх, беларускіх, рускіх, гэта значыць, у нацыянальных, школах.

«*Аплата працы і сістэма кваліфікацыі настаўніка – вось тыя праблемы, у якія прафсаюз настаўнікаў найбольш ангажаваны. Вельмі складаная атрымалася ў нас сетка аплаты. Хацелі зрабіць справядлівейшай, а атрымалася вельмі складанай. 28 кастрычніка ў нас прайшлі выбары ў Парламент* (перамаглі сацыял-дэмакраты – заўвага Н. І.), *хочуць зрабіць сетку больш простай, але гэта ўжо будзе менш справядлівая сістэма*»,– тлумачыць эксперт.

Важнай справай прафсаюза з'яўляецца навучанне настаўнікаў уменням адстойваць свае правы. Зараз арганізацыя ажыццяўляе праект Еўрапейскага Саюза «Развіццё сацыяльнага партнёрства», на які атрымала 1 млн.Lt (каля 300 000$). Усе грошы толькі на навучанне – праводзяць семінары на тэмы: правы і абавязкі настаўніка, працадаўцы, канфлікты і іх вырашэнне, мастацтва вядзення перагавораў, працоўнае права. Абавязаліся навучыць 850 настаўнікаў, робяць гэта на аднадзёных семінарах па 6 – 8 акадэмічных гадзін. «*Мы вучым нашых настаўнікаў, што*

*ўдзельнічаць у педсаветах, нарадах пры дырэктары гэта ёсць іх права, а не абавязак. Разуменне гэтага дапамагае ім быць больш самастойнымі»*, – падкрэслівае сп. Туроніс.

Яшчэ адна справа, якой апякуецца прафсаюз, – кваліфікацыя і атэстацыя настаўнікаў. У літоўскага педагога ёсць 4 кваліфікацыйныя катэгорыі: настаўнік, старшы настаўнік, метадыст і эксперт. На кожную ступень праходзяць атэстацыю проста ў школе. Для гэтага ў кожнай навучальнай установе створана кваліфікацыйная камісія (туды абавязкова ўваходзіць і прадстаўнік прафсаюза), якая назірае 12 ўрокаў настаўніка і на падставе гэтых урокаў прысвойвае новую катэгорыю. «*Міністэрства хоча прымусіць настаўнікаў пацвярджаць катэгорыю кожныя 5 год, мы супраціўляемся, пакуль што паспяхова*», – кажа прафсаюзны кіраўнік.

Пры размеркаванні нагрузкі бываюць спрэчкі ў школе і прафсаюз дапамагае іх вырашаць. Бываюць выпадкі, калі прафсаюз звяртаўся па дапамогу да кантралёра па роўнасці, той пісаў ліст дырэктару школы – і гэта дапамагло абараніць сябра прафсаюза. «*Бываюць несправядлівыя вымовы, мы ўмешваемся – і спрэчка вырашаецца на карысць настаўніка. Калі чалавек атрымаў вымову, то не атрымлівае падарунка да Калядаў, нельга на працягу года павысіць сваю кваліфікацыйную катэгорыю. Таму мы заахвочваем сваіх сяброў абавязкова аспрэчваць несправядлівыя вымовы ў камісіі па працоўных спрэчках, а ўжо потым у судзе*». У судах настаўнікі, бывае, аспрэчваюць несправядлівае звальненне. У Літве існуе закон: калі ідзе скарачэнне, нельга звольніць настаўніцу-маці, у якой дзіця да 3 гадоў, нельга звольніць кіраўніка школьнай прафсаюзнай арганізацыі, настаўніка з высокай катэгорыяй, настаўніцу-маці, у якой дзеці да 16 год, каму мала да пенсіі (менш за 3 гады). Прафсаюз абараняе сваіх чальцоў бясплатна ў судзе, не трэба плаціць за адваката. Ромас Туроніс расказаў нам некалькі неверагодных прыкладаў, як пры падтрымцы прафсаюза літоўскія настаўнікі дабіваюцца справядлівасці ў судах – аднаўлення на працы, вялікіх грашовых кампенсацый за вымушанае беспрацоўе і маральныя страты. Гэтыя гісторыі мне, беларускай настаўніцы, здаюцца нейкімі фантастычнымі.

*«Але ўвогуле палітыка наша такая, што мы стараемся пазбягаць судоў, найперш спрабуем усё вырашаць перамовамі»*, – падводзіць рысу пад тэмай канфліктаў сп. Туроніс. Ён жартуе, што з-за таго, што яго часта клічуць дапамагаць вырашаць канфліктныя сітуацыі ў школы, за ім замацавалася жартаўлівая мянушка «хлопец па выкліку». Але мне падалося, што іншая жартаўлівая назва яго пасады – «дэпартамент аптымізму» – яшчэ лепш адпавядае сапраўднасці. Ад гэтага вялікага (я маю на ўвазе рост і вагу) чалавека сапраўды выпраменьваецца дабрыня, упэўненасць, спакойная сіла.

*юцца асобам, якія былі завучамі, старшынямі школьных прафсаюзных арганізацый.*

*Зняць дырэктара з пасады можа таксама гэта ж камісія. Прафсаюзная арганізацыя можа ініцыяваць пазачарговую пераатэстацыю дырэктара і рашэнне можа прыняць савет мясцовага самакіравання.*



Сустрэча з Ромасам Туронісам

## ПЫТАННІ БЕЛАРУСКІХ НАСТАЎНІКАЎ РОМАСУ ТУРОНІСУ

***– Хто прызначае ці выбірае дырэктараў літоўскіх школаў?***

*– Дырэктара школы прызначае камісія: 2 асобы з Міністэрства адукацыі, 2 з мясцовага самакіравання, 2 бацькоў, 1 настаўнік і 1 вучань. Працэдура гэта складаецца з трох этапаў. Па-першае, кандыдаты на пасаду дырэктара праходзяць тэставанне ў Вільнюсе. Распрацавана спецыяльная сістэма тэстаў, якая правярае не толькі веды, але і ўменні працаваць у камандзе, слухаць іншых. Гэты экзамен праходзяць не ўсе кандыдаты, яго баяцца найбольш. Тут трэба набраць не менш, як тры балы. Па-другое, кандыдат, які прайшоў гэта тэставанне, прадстаўляе вышэйназванай камісіі з 8 асобаў свой план будучага развіцця школы. Па-трэцяе, адбываецца сумоўе ў камісіі, пасля якога кожны з яе чальцоў выстаўляе свае балы кандыдатам. Дырэктарам становіцца той, хто атрымаў большую колькасць балаў. Усё зроблена вельмі празрыста. Перавагі адда-*

***– Як фінансуецца дзейнасць прафсаюза, з якіх крыніц кіраўнікі прафсаюза атрымліваюць заробак?***

*– Сябры прафсаюза плацяць складкі – 1% свайго заробку. Гэта сума падзяляецца на 3 часткі: 30% перадаецца на нацыянальны ўзровень, 30% – на ўзровень мясцовага самакіравання, 40% застаецца ў школе.*

***– Наколькі шматлікае кіраўніцтва прафсаюза? Ці шмат прафсаюзных чыноўнікаў прыходзіцца карміць настаўнікам?***

*– У цэнтральным офісе настаўніцкага прафсаюза ў Вільнюсе 5 асобаў, у раённых аддзяленнях Вільнюса – па 3, у раёнах старшыні прафсаюза атрымліваюць паўстаўкі, а ў школах большасць працуе на грамадскіх пачатках.*

***– Наколькі распаўсюджаная ў літоўскіх школах кантрактная сістэма для настаўнікаў?***

*– Настаўнікі ў нас працуюць на аснове пастаянных дагавароў. Кароткатэрміновы кантракт заключаецца толькі ў тых выпадках, калі нехта прыходзіць на замену пад час дэкрэтнага адпачынку ці калі складаецца нейкі паглыблены*

*модуль на пэўны тэрмін, напрыклад, на адзін навучальны год.*

***– Колькі зарабляе літоўскі настаўнік?***

*– Сярэдні заробак сёння 2 200Lt (каля 730$). Залежыць ён ад катэгорыі (розніца паміж катэгорыямі 6 – 7%), стажу, педагагічнай нагрузкі. Зараз каэфіцыент налічэння заробку вельмі складаны.*

*год і – дабіліся адмены. Міністэрства пайшло на саступкі.*

***– Хто і як ацэньвае працуу школы?***

*– Ёсць знешні аўдыт: у школу прыязджае каманда такіх жа настаўнікаў, дырэктараў – з мэтай знайсці плюсы і мінусы ў працы. За гэта не караюць. Такі аўдыт праходзіць 1 раз на 3 гады, грошы выдзяляе мясцовае самакіраванне. Галоўны паказчык працы педагога і школы – урокі. Каб школа стала гімназіяй, трэба прайсці акрэдытацыю. У гімназіі на апошняй ступені павінна быць дыферэнцыяцыя мінімум па трох напрамках.*



***– Ці хапае настаўнікаў у Літве? Ці ёсць беспрацоўе сярод педагогаў?***

*– Зараз настаўнікаў хапае. Да 2009 года не ставала матэматыкаў, інфарматыкаў. Прычыны змянення сітуацыі – крызіс 2009 г., а таксама памяншэнне колькасці вучняў. Нават ёсць зарэгістраваныя на біржы беспрацоўныя настаўнікі.*

***– У колькі гадоў літоўскі настаўнік ідзе на пенсію? Ці ёсць пенсія па выслузе?***

*– У нас цяпер жанчыны ідуць на пенсію ў 60, а мужчыны ў 62,5 гады. Кожны год тэрмін будзе павялічвацца на 2 месяцы і ад 2020 году плануецца выхад на пенсію ва ўсіх у 65 год. Гэта агульнаеўрапейская тэндэнцыя, звязаная з працэсам «старэння» насельніцтва. Пенсіі па выслузе няма, наш прафсаюз змагаецца за яе.*

***– Ці страйкуюць літоўскія настаўнікі?***

*– О, так! У нас цяпер толькі настаўнікі і страйкуюць! Вось у гэтым годзе 21 лютага быў папераджальны страйк: на 2 гадзіны спынілі працу супраць паўторнай атэстацыі праз 5*

***– Як літоўскія настаўнікі павышаюць сваю кваліфікацыю?***

*– У нас склалася сістэма павышэння кваліфікацыі праз семінары па 6 – 8 гадзін у дзень. Рэкамендуем настаўнікам штогод праходзіць 40-гадзінны курс павышэння кваліфікацыі, гэта атрымліваецца 5 дзён у год. Вельмі шмат грошай ЕС атрымліваем на павышэнне кваліфікацыі педагогаў. Нашы настаўнікі могуць ездзіць на стажыроўкі за мяжу.*

***– Ці актуальная для літоўскіх педагогаў праблема паперызацыі (гэта значыць ці трэба афармляць шмат папераў)?***

*– Так, такая праблема бывае. Каб пазбягаць паперызацыі, у Літве зацверджаны мінімум дакументаў, якія павінны быць у школе і ў настаўніка: план на год, школьны журнал. Цяпер большасць школ ужо пераходзяць на электронны школьны журнал. У школах усе дзеці атрымліваюць бясплатнае харчаванне, арганізаваны падвоз тых вучняў, хто жыве далёка, таму настаўнікам прыходзіцца рабіць справаздачы пра харчаванне і падвоз. Спачатку гэтую справаздачнасць зрабілі вельмі складанай – тады настаўнікі прыгразілі страйкам і справаздачнасць была спрошчана.*

***– Як літоўскі настаўнік можа абараніць сябе ад хамства вучняў, хуліганства на ўроку?***

*– Міністр падпісаў дакумент, у якім пералічана, што можна рабіць настаўніку ў такой складанай сітуацыі. Можна выключыць такога вучня на некаторы час са школы – тады яго памяшчаюць ў ізаляванае памяшканне (своеасаблівы «карцар»), да яго прыходзяць настаўнікі, даюць яму заданні, якія ён абавязаны самастойна выканаць.*

*Настаўнік можа выклікаць паліцыю – бацькоў тады аштрафуюць за парушэнне дысцыпліны іх дзіцём. Штрафы могуць быць даволі вялікія. Калі вучань мае такое спагнанне, судзімасць – яго потым не возьмуць у армію. Армія ў нас прафесійная, на кантрактнай аснове, добрыя заробкі, таму набіраюць па конкурсе.*

***– Калі вучань зрабіў злачынства – ці караюць за гэта дырэктара школы, настаўнікаў?***

*– Не, дырэктара і настаўнікаў не караюць. Але сам па сабе такі факт кідае цень на прэстыж школы. У нас жа вучні з бацькамі самі выбіраюць школу для вучобы і кепская слава не будзе спрыяць папулярнасці такой школы.*

Сустрэча з прафсаюзным лідарам выклікала вялікую цікавасць у маіх калег. Мы яшчэ не раз вярталіся ў сваіх абмеркаваннях да гэтай інфармацыі, назіраючы пры наведванні школаў тыя з'явы, пра якія нам расказваў Туроніс. Нехта з беларусаў проста і ясна акрэсліў асаблівасць прафсаюза літоўскіх педагогаў: «Праблемы ў беларускіх і літоўскіх настаўнікаў вельмі падобныя, толькі прафсаюзы нашы вырашаюць іх па-рознаму: у літоўцаў – на карысць настаўніка, а ў нас чамусьці – на карысць начальства…»

# ЯК ПАДВЫСІЦЬ ПРЭСТЫЖ ПРАФЕСІІ НАСТАЎНІКА: ПРАПАНОВЫ ЎКРАІНСКІХ ЭКСПЕРТАЎ

Адно з найбольш балючых пытанняў сённяшняй школы ў краінах постсавецкай прасторы – нізкі ўзровень падрыхтоўкі настаўнікаў і значнае падзенне іх аўтарытэту. Эксперты ўкраінскага штотыднёвіка «Комментарии:» мяркуюць, што праблему трэба пераадольваць не толькі і не столькі праз матэрыяльнае стымуляванне.

**Не штучна перакрыць дэфіцыт кадраў за кошт матэрыяльных прынадаў, а якасна аднавіць кадравы рэсурс...**

Ні ў воднай краіне свету настаўнікі не ўваходзяць у найбольш забяспечаныя класы грамадства. Проста ў іншых краінах матэрыяльныя страты кампенсуюцца павагай да статусу педагога. У нас жа настаўнік сёння з'яўляецца хутчэй «сацыяльным работнікам», у абавязкі якога ўваходзіць прывядзенне кожнага дзіцяці да нейкай «разумовай кандыцыі. У сваю чаргу, улада разглядае настаўнікаў не як людзей, якія фармуюць аснову людскога капіталу краіны, а як паслухмянае войска ўтрыманцаў, якое прыкрывае ідэалагічны фронт. Зразумела, што пры такім раскладзе ў школе застаюцца працаваць альбо тыя, хто ўтрапёна адданы прафесіі, альбо тыя, каму няма чаго губляць, апроч сваёй пенсіі. Вынік – недахоп спецыялістаў і старэнне кадраў. І галоўнае пытанне сёння не толькі ў тым, каб штучна перакрыць кадравы дэфіцыт сістэмы школьнай адукацыі за кошт разнастайных матэрыяльных прынадаў для педагогаў (высокі заробак, забеспячэнне жытлом, сацыяльныя гарантыі ды інш). Куды больш важнай і складанейшай для развязання з'яўляецца праблема якаснага аднаўлення гэтага кадравага рэсурсу, уліцца ў яго маладых, добра адукаваных, творчых і прагрэсіўных асобаў, – што ажывіць усю сістэму і ў пэўнай ступені забяспечыць прафесіі настаўніка прывабны імідж.

**Найлепшыя выпускнікі не ідуць у педагогі**

Паколькі пакліканне і талент у прафесіі настаўніка маюць вырашальнае значэнне, навучальныя ўстановы, якія рыхтуюць спецыялістаў для школ, павінны ў ідэале быць не столькі кузняй кадраў, колькі «латкамі стараценляў», з дапамогай якіх намываюцца такія таленты. Найлепшыя выпускнікі школ, нажаль, не ідуць у педагагічныя ўніверсітэты. А з ненайлепшых вучняў цяжка стварыць найлепшых настаўнікаў. Каб знізіць уплыў фактару выпадковых людзей у прафесіі на якасць педагагічнай адукацыі, варта для тых, хто паступае ў педагагічную ВНУ, увесці абавязковы тэст на здольнасць працы з дзецьмі. Вядома, усё гэта актуальна толькі ў выпадку, калі выбар прафесіі робіцца ўжо свядома.



**Універсітэт як база для педагагічнай адукацыі**

Насамрэч, педагагічныя ВНУ сёння наўрад ці адчуваюць недахоп абітурыентаў. Аднак маладыя людзі паступаюць у іх, хутчэй, каб атрымаць профільную вышэйшую адукацыю як такую. Самі педагагічныя ВНУ ў апошнія дзесяцігоддзі, адчуваючы кан'юнктуру, актыўна трансфармаваліся ў класічныя ўніверсітэты «другараднага значэння». У сувязі з гэтым выказваюцца ідэі новых мадэляў падрыхтоўкі студэнтаў да настаўніцкага шляху.

Напрыклад, на аснове бакалаўрыяту класічнага ўніверсітэта прапануюць педагагічную магістратуру. Гэта значыць, толькі пасля таго, як студэнт атрымаў якую-небудзь класічную спецыяльнасць, ён можа ўжо цалкам свядома працягваць адукацыю для атрымання права выкладання. Найбольш трапным такі падыход быў бы пры падрыхтоўцы настаўнікаў для старэйшай школы.

Іншая прапанова – спыніць рыхтаваць настаўнікаў па канкрэтных прадметах: фізіка, матэматыка, біялогія і г.д. Мэтазгодней было б рыхтаваць спецыялістаў па цэлых галінах – напрыклад, настаўнікі па кірунку «прыродазнаўства» маглі б выкладаць адразу фізіку, хімію, біялогію, цэлы шэраг натуральных навук. У гэтай ідэі ёсць пазітыўны матэрыяльны аспект – настаўнікі мелі б больш гадзінаў і менш шанцаў застацца без працы.

У карэнных рэформах мае патрэбу і сістэма падрыхтоўкі настаўнікаў малодшых класаў. Сёння туды ідуць выпускнікі педагагічных каледжаў, г.зн. настаўнікі без вышэйшай адукацыі. Але ж ад таго, як педагог падрыхтуе школьніка, каб той вучыўся, верыў у свае сілы, дасягаў поспеху, залежыць эфектыўнасць

усяго наступнага працэсу навучання. Таму на гэты кірунак павінны ісці самыя падрыхтаваныя спецыялісты з поўнай вышэйшай адукацыяй і ступенню магістра. Спецыяльнасць настаўніка малодшай школы павінна быць самай прэстыжнай і найбольш ухваляцца грамадствам.

Што да сістэмы павышэння кваліфікацыі педагогаў – у цяперашнім выглядзе яна скіравана не на папаўненне змястоўных ведаў, а на азнаямленне з навінамі ў методыцы выкладання. Варта дадаць больш класічных універсітэтаў у якасці базаў для павышэння кваліфікацыі настаўнікаў, каб даць ім магчымасць быць у курсе новых адкрыццяў у сваёй вобласці выкладання, атрымліваць новыя веды па прадмеце на аснове апошніх дасягненняў навукі.

*У абмеркаванні паўдзельнічалі: дырэктар Цэнтра адукацыйнага маніторынгу Павел Палянскі, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук вышэйшай школы Украіны Максім Стрыха, прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі педагагічных навук Украіны Васіль Крэмень, прарэктар па навукова-педагагічнай працы Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта ім. Т. Шаўчэнкі Уладзімір Бугроў.*

Падрабязней – на сайце штотыднёвіка «Комментарии:»: http://gazeta.comments.a/?spec=1320998830

# ПРАФЕСАР ГІЯ НОДЗІЯ ПРА РЭФОРМУ АДУКАЦЫІ Ў ГРУЗІІ

***Прафесар Гія Нодзія – былы міністр адукацыі Грузіі (2008 г.), цяпер дырэктар Каўказскага інстытута міру, дэмакратыі і развіцця, выкладчык універсітэта.***



Рэформа адукацыі ў Грузіі пачалася ў 2003 годзе, адразу пасля Рэвалюцыі ружаў, калі кіраўніка краіны савецкага тыпу Шаварднадзэ замяніў малады, адукаваны і зарыентаваны на захад, палітык Міхаіл Саакашвілі. Пасля гэтага Грузія абвясціла курс на лібералізацыю эканомікі, правяла рэформу праваахоўных органаў, у выніку якой была знішчана карупцыя, прыцягнуты ў краіну заходні капітал. Тэрмін кіравання прэзідэнта Грузіі сканчаецца, у 2013 годзе прыйдзе іншы кіраўнік краіны, і грамадства шырока абмяркоўвае змены, якія адбыліся ў краіне за гэты час.

Былы міністр адукацыі і навукі Грузіі Гія Нодзія адмыслова для Настаўнік.info пагадзіўся распавесці пра змены, што адбыліся ў адукацыі.

***- Шаноўны прафесар, Вы былі міністрам адукацыі і навукі ў той час, калі Грузія якраз пераходзіла са старых савецкіх рэек на больш сучасныя. Што Вы можаце распавесці беларускім калегам, у якіх гэты шлях наперадзе?***

- Пасля таго, як Грузія стала на шлях дэмакратыі, у 2004 годзе міністрам адукацыі і навукі быў прызначаны дырэктар фонду Сораса. Дарэчы, у кіраўніцтва ў той час прыйшло шмат людзей з недзяржаўнага сектару. Яна прынеслі ва ўрад ідэю. Найбольшую ўвагу надалі рэформе вышэйшай адукацыі – і Балонскі працэс стаў своеасаблівым шчытом для гэтага.

У пераходны перыяд рэктараў ВНУ прызначала Міністэрства, на працягу 2 гадоў увесь прафесарска-выкладчыцкі склад прайшоў праз конкурс, змянілася структура ВНУ. І ў школах, і ў ВНУ ўведзена ваўчарная сістэма (*грошы з бюджэта на навучанне ідуць у тую ўстанову, якую выбірае вучань ці студэнт – Настаўнік.info*). Уся вышэйшая адукацыя платная, але дзяржава дае гранты на навучанне. Гэта дазваляе атрымаць адукацыю найлепшым, хай сабе і бедным. Максімальны памер гранта – 1100€ ў год. Дзяржаўныя ўніверсітэты не маюць права прызначаць больш кошт за навучанне, аднак прыватныя – маюць. Быў час, калі ў маленькай Грузіі дзейнічала каля 200 ВНУ, аднак пасля атэстацыі засталося 16 дзяржаўных і каля 50 прыватных. Кожны ўніверсітэт мае аўтаномію і можа сам вырашаць, якім яму быць – дзяржаўным ці прыватным (non-profit organization). Мінстэрства адукацыі і навукі прызначае борд, каб сачыць за тым, як трацяцца фінансы. Грошы на даследчую і навуковую работу ўніверсітэты атрымліваюць праз конкурс.

Пасля такіх рэформаў заробак прафесароў і выкладчыкаў значна падвысіўся, карупцыя ў сферы адукацыі знікла. Аднак узровень адукацыі – розны.

***- Што трэба, каб паступіць ва ўніверсітэт?***

Паступленне ва ўніверсітэты адбываецца на падставе агульнанацыянальнага экзамену. Раней гэта былі 3 абавязковыя экзамены і 1 на выбар універсітэта. Але такая сістэма справакавала стан, калі дзеці не вучыліся ў школах, а рыхтаваліся да гэтых экзаменаў. Потым у школах увялі 8 выпускных экзаменаў, якія праводзіць не школа, а той жа інстытут, што рыхтуе агульнанацыянальныя экзамены. Нейкі час дзеці вымушаныя былі здаваць 8 экзаменаў у чэрвені і яшчэ 4 ў ліпені. Гэта было перагрузкай. Сёлета замест 4 агульнанацыянальных экзаменаў распрацаваны адзін, які зроблены на ўзор амерыканскіх GRE ці GMAT. Гэты адзін кваліфікацыйны экзамен будзе правяраць базавыя кампетэнцыі, уменні, логіку. Пры паступленні будуць улічвацца і вынікі 8 школьных экзаменаў (аналаг матуры) і агульнага нацыянальнага экзамену.

***- Як выглядае ў Грузіі сярэдняя адукацыя?***

У школах Грузіі 12-гадовае навучанне. Як і у большасці еўрапейскіх краінаў, яно мае 3 ступені (6+3+3). Школы ўпраўляюцца праз Школьныя рады.

Рада складаецца з настаўнікаў, бацькоў, аднаго вучня і аднаго прадстаўніка мясцовых саветаў (органа мясцовага самакіравання). Школьная рада выбірае дырэктара, які пасля абрання мае ўсе правы менеджара: толькі ён мае права набіраць і звальняць настаўнікаў. Для таго, каб стаць дырэктарам, трэба прайсці кваліфікацыйны экзамен Міністэрства адукацыі. Тыя, хто прайшоў такі экзамен, і канкуруюць у Школьных радах, каб быць выбранымі на пасаду дырэктара школы. Школа сама выбірае падручнікі і праграмы навучання. Падручнікі павінны быць сертыфікаваныя, выбар падручнікаў у Грузіі даволі багаты. Міністэрства не ўмешваецца ў гэты працэс, яно толькі прапануе нацыянальны план, які апісвае, што вучні павінны ведаць і якімі кампетэнцыямі валодаць.



***- Якія складанасці ўзнікалі пры такой дэцэнтралізацыі школы?***

- Часам Школьныя рады не працавалі дастаткова адказна. Часам яны былі фармальнымі, а дзе-нідзе была барацьба. І тады ў іх дадалі па адным прадстаўніку рэсурсных цэнтраў. Гэтыя структуры былі створаны для дапамогі настаўнікам замест колішніх РАНА. Рэсурсныя цэнтры – гэта найперш праваднікі інфармацыі, яны ж робяць трэнінгі для настаўнікаў, арганізуюць мерапрыемствы па павышэнні кваліфікацыі, займаюцца арганізацыяй публічнага права пры Міністэрстве адукацыі і навукі. Такім чынам, Грузія зрабіла зваротны ўхіл у бок цэнтралізацыі.

***- Хто адсочвае якасць адукацыі?***

- У Грузіі створаны механізм акрэдытацыі паводле брытанскай мадэлі. Кожны настаўнік ці выкладчык абавязаны прайсці сертыфікацыю да 2014 года. Настаўнікі ў Грузіі маюць невялікі заробак, якасць настаўнікаў нізкая, і такое рашэнне настаўнікі ўспрынялі ў штыкі. Шмат хто з іх не зможа прайсці сертыфікацыю. Міністэрства імкнецца зрабіць, каб экзамены на сертыфікат былі не надта складанымі. Настаўнікі – шматлікая, арганізаваная і магутная палітычная сіла. Дзяржава баіцца пратэстаў і хоча зрабіць, каб яны маўчалі. Незалежны прафсаюз настаўнікаў быў найбольш моцным і дзейсным прафсаюзам, які эфектыўна бараніў іх правы.

***- А ці перайшла Грузія на кампетэнтнасны падыход да ацэнкі якасці адукацыі? І як гэта ўспрынялі настаўнікі?***

- Зразумела, перайшла. Настаўнікі таксама гэта ўспрынялі ў штыкі. Большасць педагагічнага складу – гэта жанчыны ва ўзросце каля 50 год, яны прызвычаіліся да традыцыйнага навучання і не вельмі хочуць вучыцца. Новых настаўнікаў рыхтуюць па-новаму. У Грузіі няма педагагічных ВНУ. Яны ператварыліся ва ўніверсітэты. Каб стаць настаўнікам, трэба атрымаць ступень бакалаўра, потым прайсці магістратуру па педагогіцы і мець практыку ў школе. Аднак у апошнія часы мы крыху адыходзім ад такой жорскай сістэмы. Настаўнікам можа стаць і чалавек без адмысловай педагагічнай адукацыі, які здаў сертыфікацыйны экзамен. (*Такая практыка прынятая ў многіх краінах і дазваляе прыцягнуць у школаў педагогаў паводле паклікання – Настаўнік.info*). Дарэчы, зараз у школах Грузіі працуюць настаўнікамі англійскай мовы больш за тысячу валанцёраў з англамоўных краінаў: ЗША, Вялікабрытаніі ды інш. Яны не заўсёды маюць педагагічную адукацыю, але праходзяць кароткатэрміновыя курсы. Гэта была ініцыятыва прэзідэнта Грузіі, каб кожны школьнік ведаў англійскую мову і ўмеў карыстацца інфармацыйнымі тэхналогіямі. Таму Міністэрства адукацыі робіць намаганні, каб у кожную школу (а такіх каля 2 тысяч) прыцягнуць валанцёра-замежніка, бо часам настаўнікі самі не валодаюць замежнай мовай і камп’ютарам настолькі, каб навучыць дзяцей.

***- А як адбілася ваўчарная сістэма фінансавання на сярэдняй адукацыі?***

- У вялікіх гарадах павысілася канкурэнцыя паміж школамі, так як школа імкнецца прыцягнуць вучня якасцю адукацыі. У маленькіх горных сяленнях, дзе дзейнічаюць каэфіцыенты, выбару школаў няма. У Грузіі ёсць такія школы, дзе навучаюцца 3 чалавекі, 10 чалавек.

***- А ці ўдзельнічала Грузія ў даследаваннях PISA?***

- Так, удзельнічала, і збіраецца ўдзельнічаць далей. Мы паказалі нізкія вынікі. Пасля былі зроблены захады, пра якія я распавёў.

***- А як у вашых школах з ідэалогіяй?***

- Ідэалогія прысутнічае. Настаўнікі Грузіі лічаць, што дзецям трэба прышчапляць нацыянальныя і рэлігійныя каштоўнасці. Апошнім часам павялічылася жаданне прышчапіць яшчэ і антысавецкае мысленне, каб школьнікі ведалі, што жыццё ў СССР і Расійскай імперыі – гэта было кепска. Аднак Цэнтр падручнікаў сочыць, каб падручнікі мелі гістарычныя спасылкі на першакрыніцы, каб былі напісаныя так, што вучні маглі весці дыскусіі, спрачацца, абмяркоўваць усе пытанні. Метадычна, якасна падручнікі вельмі змяніліся ў лепшы бок.

***- Ці дзейнічаюць грамадскія аб’яднанні ў школах? Чым яны займаюцца?***

- Актыўныя школьнікі маюць магчымасць далучыцца да розных грамадскіх ініцыятываў. Прыкладам, можна ўдзельнічаць у скаўцкім руху, арганізуюцца «летнікі патрыётаў». Вось нядаўна Міністэрства моладзі і спорту праводзіла ў школах конкурс эсэ «Я і выбары».

*Гутарыла Тамара Мацкевіч*

## «Актыўная ацэнка як новая стратэгія навучання»: Семінар у АПА

***14 – 15 лютага 2013 г.***

Цэнтр прафесійнага развіцця і інавацыйнай адукацыі ДУА «Акадэмія паслядыпломнай адукацыі» з 14 па 15 лютага 2013 г. праводзіць семінар «Актыўная ацэнка як новая стратэгія навучання».

Практычны курс адрасаваны кіраўнікам і спецыялістам, якія робяць крокі на шляху стварэння збалансаванай сістэмы кантролю і ацэнкі вучэбных дасягненняў у адукацыйнай установе; педагагічным работнікам, зацікаўленым ва ўжыванні тэхналогій, якія стымулююць ацэначную самастойнасць вучняў; усім, хто цікавіцца новымі тэхналогіямі ў адукацыі.

Навучанне будзе праходзіць у рэжыме мадэлявання рэальнага навучальнага працэсу з выкарыстаннем разнастайных актыўных спосабаў арганізацыі працы.

Іншагароднім удзельнікам на час правядзення семінара прапануецца інтэрнат. Кошт навучання складае 385 000 рублёў.

Падрабязней глядзіце на **http://www.academy.edu.by/semenarikonfer/546.html**

## «Выкарыстанне праектных задач у адукацыйным працэсе»: Семінар у АПА

***25 – 26 лютага 2013 г.***

У ДУА «Акадэмія паслядыпломнай адукацыі» з 25 па 26 лютага 2013 г. адбудзецца тэматычны семінар для педагагічных работнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі «Выкарыстанне праектных задач у адукацыйным працэсе на I ступені агульнай сярэдняй адукацыі» на платнай аснове навучання.

У праграме семінара будуць разгледжаны пытанні па выкарыстанні ў адукацыйным працэсе I ступені агульнай сярэдняй адукацыі праектных задач. У рамках правядзення семінара плануецца рэалізацыя ўрокаў рашэння праектных задач на базе ДУА «Сярэдняя школа № 11 г. Мінска».

Іншагароднім удзельнікам на час правядзення семінара прапануецца інтэрнат. Кошт навучання складае 260 000 рублёў.

Падрабязней глядзіце на **http://nastaunik.info/news/?id=7524**

## Міжнародны конкурс дзіцячых малюнкаў

***Апошні тэрмін – 28 лютага 2013 г.***

Праграма ААН па навакольным асяроддзі (ЮНЭП) абвясціла пачатак штогадовага міжнароднага конкурсу дзіцячых малюнкаў на тэму навакольнага асяроддзя. Конкурс арганізаваны ЮНЭП, японскім Фондам за глабальны мір і навакольнае асяроддзе, кампаніяй Баер і карпарацыяй Нікан. Конкурс праводзіцца з 1991 года і за гэты час сабраў больш за 3 мільёны малюнкаў ад дзяцей больш чым з 150 краін.

Тэма 22-га конкурсу малюнкаў – «Вада». Подтемы: «Вада: крыніца жыцця», «Вада: адкуль яна з'яўляецца?»

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца дзеці ўсяго свету ва ўзросце ад 6 да 14 гадоў.

Падрабязней глядзіце на **http://un.by/news/belarus/2012/63baa1f134e64.html**

## Навуковая педагагічная перыёдыка Украіны online

На сайце Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя У.І.Вярнадскага ў раздзеле «Наукова періодика України» размешчаны бясплатны online-архіў украінскай навуковай перыёдыкі.

У спісе выданняў – 1790 пазіцый. Сярод іх – з сотню выданняў, прысвечаных тэарэтычным і практычным пытанням сучаснай педагогікі.

Падрабязней глядзіце на **http://www.nbuv.gov.ua/**

Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта ***Nastaunik.info***
Адрас для допісаў: ***nastaunik.info@gmail.com***
Наклад 200 асобнікаў

## Творчасць не ведае межаў: Трансмежныя спаборніцтвы для школ

***Апошні тэрмін – 15 сакавіка 2013 г.***

Праграма трансмежага супрацоўніцтва Польшча – Беларусь – Украіна 2007 – 2013 запрашае школы, якія знаходзяцца на тэрыторыі праграмы, да ўдзелу ў акцыі па прасоўванні трансмежнай супрацы. Прыдумайце цікавыя міжнародныя гульні, сустрэньцеся з сябрамі з іншых краін ды паўдзельнічайце у фестывалі рэгіёнаў!

Падрабязней глядзіце на на **http://pl-by-ua.eu/create/index.php**

## CEEP: Адукацыйна-культурная праграма ў ЗША для беларускіх школьнікаў

***Апошні тэрмін – 16 сакавіка 2013 г.***

Cultural and Educational Enrichment Project (CEEP) прадугледжвае пяць тыдняў побыту ў ЗША для вучняў старэйшых класаў з Беларусі.

Удзельнікаў чакае праграма, якая дасць уяўленне пра мясцовую супольнасць, штат і краіну; бізнэс-тыдзень на тэрыторыі ўніверсітэта; валанцёрская дзейнасць з прымаючай сям'ёй. Праграма пройдзе 2 ліпеня – 6 жніўня ў горадзе Эленсбург (штат Вашынгтон).

Арганізацыя забяспечвае ўдзельнікам транспарт, медычнае страхаванне і некаторыя выдаткі па праграме. Прымаючая сям'я забяспечвае ўдзельнікам пражыванне і харчаванне. Адабраныя прэтэндэнты павінны будуць сплаціць візу ЗША і звязаныя з гэтым зборы.

Падрабязней глядзіце на **http://nastaunik.info/news/?id=7483**

## «Экслібрыс» : Конкурс твораў дзіцячай літаратуры

***Апошні тэрмін – 1 жніўня 2013 г.***

ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і Беларускі ПЭН-цэнтр з 1 студзеня 2013 года абвяшчаюць пра пачатак прыёму твораў на конкурс маладых пісьменнікаў «Экслібрыс» імя Янкі Маўра. У 2013 годзе споўніцца 130 гадоў з дня нараджэння вядомага дзіцячага пісьменніка. А таму сёлета тэмай конкурсу абраная дзіцячая літаратура.

Да разгляду конкурснага журы будуць прымацца творы для дзяцей у наступных жанрах: проза (апавяданні, казкі і г.д.), паэзія (вершы, байкі і г.д.), п'есы, тэксты песень, коміксы, пераклады замежных дзіцячых твораў на беларускую мову.

Узяць удзел у конкурсе могуць пісьменнікі, літаратурныя крытыкі і перакладчыкі не старэйшыя за 40 гадоў.

Падрабязней глядзіце на **http://nastaunik.info/news/?id=7422**